# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №47 (156), 23 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ




## ДЫЯМЕНТЫ ПОЛЬСКАГА МАСТАЦТВА Ў МІНСКУ

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

Сусветна вядомы артыст Даніэль Альбрыхскі на адкрыцці Дзён польскай культуры.


(Матэрыял чытайце на 2-й стар.)

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

ВЕРТЫКАЛЬ

## "ЭТО ЧТО ЗА БОЛЬШЕВИК ЛЕЗЕТ ТАМ НА БРОНЕВИК?"

Гэтую загадку з дзіцячай кніжкі, выдадзенай у "застойныя гады", я прыгадаў, убачыўшы ў пазамінулую пятніцу на тэлеэкране прэзідэнта нашай краіны. Аляксандр Рыгоравіч толькі-толькі вярнуўся з суседняй краіны, дзе папраўляў сваё здароўе... Усім сваім выглядам А.Лукашэнка нібыта хацеў абвергнуць папулярную сярод яго-ных апанентаў думку, нібыта "хворая краіна абрала хворага прэзідэнта". І, адчувалася, вельмі хацеў, каб тэлегледачы ўспрынялі яго грозным бацькам, які вярнуўся з далёкай вандроўкі, знайшоў у хаце непарадак і зараз учыніць вінаватым разборку.

У імклівасці нападу на сваю ж каманду, на прэсу, гандаль і камерсантаў было нешта бальшавіцкае. Памятаеце таго, які, стоячы на вежы бранявіка, кідаў у натоўп жорсткія тэзісы? Тут дадавалася яшчэ крыўда дзіцяці, у якога забралі любімую цацку — прэзідэнцкую "вертыкаль". Думаю, менавіта пастанова Канстытуцыйнага суда аб прыпыненні будаўніцтва "вертыкалі" і выклікала найбольшую раздражнёнасць (нездарма ж сустрэча з В.Ціхінем доўжылася паўтары гадзіны). Падаецца — прэзідэнт баіцца будучых парламенцкіх выбараў і таго, што ў Авальную залу прыйдуць людзі, якія прымусяць яго паважаць Канстытуцыю, а яшчэ горай, будуць здольныя нагадаць яму, што прэзідэнт можа быць пазбаўлены пасады, калі за гэта прагаласуюць дзве трэці дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Зразумела, такая перспектыва не можа радаваць А.Лукашэнку. Між тым, прэзідэнцкая "вертыкаль" можа стаць эфектыўным інструментам уплыву на грамадства ў часе будучых выбараў. Верныя прэзідэнту людзі на кіраўнічых пасадах у правінцыі зробяць усё магчымае, каб палітычныя апаненты Лукашэнкі не прайшлі ў парламент. Пры імклівым падзенні папулярнасці прэзідэнта сярод тых, хто за яго галасаваў, пры адсутнасці перспектыў паляпшэння жыцця ці хоць бы спынення далейшага пагаршэння, "вертыкаль" для Лукашэнкі ці не адзіная магчымасць даседзець у крэсле да заканчэння тэрміну — усе пяць гадоў.

З экрана тэлевізара прэзідэнт Лукашэнка спрабаваў пераканаць краіну, што ён і толькі ён з'яўляецца гарантам стабільнасці і парадку на Беларусі; маўляў, дастаткова было прэзідэнту на некалькі дзён з'ехаць, як адразу пачалося немаведама што — дэпутаты ў адсутнасці "бацькі" перасварыліся, законы не дзейнічаюць, цэны растуць. Але пакуль ёсць Лукашэнка, ёсць каму абараніць простага чалавека. Перш-наперш прэзідэнт, дбаючы пра народ, загадаў вярнуць цэны ў першасны стан, — зноў зрабіць іх такімі, як у кастрычніку.

Аднак эканоміку нельга падмануць прыгожымі папулісцкімі жэстамі накшталт падвышку зарплаты ва ўмовах падзення вытворчасці. Нават не трэба быць дыпламаваным эканамістам, каб зразумець, што гэтая часовая палёгка вельмі хутка пакладзецца на нашыя плечы дадатковым цяжарам, новым вітком інфляцыі. Можна прымусіць гандаль прадаваць насельніцтву малако і хлеб ніжэй сабекошту, але, каб кампенсаваць страты, будзе неабходна ўзняць цэны на мяса альбо на нешта іншае.

Калі я папрасіў знаёмага эканаміста, супрацоўніка аднаго з мінскіх камерцыйных банкаў, пракаменціраваць выступленне прэзідэнта, ён адказаў: "Это комментировать невозможно". Сапраўды, калі замест эканамічнай рэформы народу прапаноўваюць судовыя працэсы над уладальнікамі катэджаў; замест "круглага стала" — штучныя "вострыя вуглы" (прэзідэнт у чарговы раз выказаў намер наладзіць "разборку" камерсантам, якія, па ягоных словах, рабуюць народ), — дык задумацца ёсць аб чым.

Асабліва небяспечным падаецца мне тое, што пра сваіх учарашніх калег — дэпутатаў Вярхоўнага Савета прэзідэнт дазваляе сабе гаварыць, як пра хеўру сабатажнікаў, якія стаяць паміж прэзідэнтам і ягоным народам (адсюль недалёка і да "врагов народа"); дазваляе сабе ў размовах з замежным карэспандэнтам разважаць аб тэрмінах і мэтазгоднасці разгону Вярхоўнага Савета.

Адчуўшы негатыўную рэакцыю грамадства на сваё тэлевізійнае выступленне, сп.Лукашэнка быў вымушаны прызнаць, што пагарачыўся, што, у прыватнасці, ягоныя выказванні ў адрас Канстытуцыйнага суда былі неапраўдана рэзкімі. Зрабіў прэзідэнт і сякія-такія прымірэнчыя крокі ўбок камерсантаў. І ўсё ж лічыць інцыдэнт вычарпаным нельга. Для кіраўніка дзяржавы недаравальна паддавацца эмоцыям і кідацца словамі, за якія потым будзе сорамна. Сорамна ўсёй краіне. І ўвогуле, пры невынішчальнай схільнасці сп.Лукашэнкі да сілавых метадаў пытанне пра бальшавіцкі бранявік застаецца адкрытым...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



# ДЫЯМЕНТЫ ПОЛЬСКАГА МАСТАЦТВА Ў МІНСКУ

***Крызіс крызісам, а культурнае жыццё працягваецца, напаўняецца арыгінальнымі фарбамі. Знаходзяць новыя нагоды і месцы "тусовак" як творчая інтэлігенцыя, так і звычайныя аматары мастацтва. Культурную прастору сталіцы пашыраюць замежныя амбасады — Японіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны. Узнікае, як хтосьці апошнім часам публічна канстатаваў, нават канкурэнцыя: хто больш арыгінальна прадставіць беларусам разынкі мастацтва сваіх краінаў. Здаецца, на пальму першынства найперш прэтэндуе Польшча. Першы сакратар амбасады гэтай краіны ў Мінску спадар Марэк Галкоўскі — сёння, бадай што, найбольш папулярная з дыпламатаў-замежнікаў асоба ў асяродку беларускай інтэлігенцыі — робіць стаўку не на колькасць мерапрыемстваў, а на якасць. Ён "прывозіць" у Мінск толькі "зорак" першай велічыні, толькі дыяменты мастацтва найбольш блізкай паводле культурных традыцый для нас краіны. Дарэчы, тых асобаў і тыя творы, ад уздзеяння якіх "бараніла" нас так званая камуністычная ідэалогія. Здаецца, зусім нядаўна (а ўжо прайшоў амаль год) нашым каханым госцем быў вялікі майстра еўрапейскага кіно Кшыштаф Занусі. І вось зноў Дні польскай культуры маюць дакладна акрэсленую мэту — "Анджэй Вайда, яго кіно і акцёры".***







Кіно Анджэя Вайды — гэта найвялікшы пласт сусветнай культуры. Чалавек у жорсткіх адбымках грамадства, гісторыі, ідэалогіі — асабіста я так вызначаю галоўную тэму творчасці вялікага майстра, акцэнтуючы слова "чалавек". Рэтраспектыва стужак спадара Вайды і пачалася менавіта з карцін, дзе гэтая праблема прагучала найбольш ёміста. Фільм "Запаветная зямля" — бадай, найбольш грандыёзны за ўсю гісторыю польскага кінематографа — быў зняты амаль дваццаць гадоў таму. Ён, забаронены для паказу ў нас, прагучаў у посткамуністычнай Беларусі, якая становіцца на шлях капіталізацыі, экстра-актуальна. Нешта такое я і сказаў падчас фуршэту выканаўцу адной з цэнтральных роляў — спадару Даніэлю Альбрыхскаму. У адказ: "Але, грошы... А ўвогуле гэта фільм не пра штo большае, як трое людзей — паляк, немец, яўрэй, — якія не маюць гэтых самых грошай, захацелі іх мець..." Просценькая фабула рамана Раймонта разгорнута спадаром Вайдам у эпічны супер-калос, дзе з псіхалогіі людзей звычайных нараджаецца выразны пластычны сімвал звярынага свету, у якім балюе жоўты метал, знішчаючы мараль. Фантастычныя паводле абагульнення метафары, сцэна ў вагоне, калі героя Д.Альбрыхскага гвалціць ільвіца з класа тых, "хто прыйшоў", закусваючы заморскімі прысмакамі, ці смерць яго ж бацькі. Гіне традыцыйная, старасвецкая мараль, на змену ёй ідуць норавы "нуварышаў".

Карціна "Запаветная зямля" сваім выключным мастацкім вынікам вывела на першыя пазіцыі ў Еўропе адразу трох тады яшчэ маладых акцёраў — Даніэля Альбрыхскага, Войцеха Пшоняка, Анджэя Сэверына. Першыя два сёння здымаюцца ва ўсім свеце, атрымліваючы найвялікшыя для еўрапейскіх артыстаў ганарары. Апошні — зараз вядучы акцёр знакамітага парыжскага тэатра "Камеды Франсэз". Шквал авацый пасля дэманстрацыі фільма ў кінатэатры "Перамога" і нецярплівае чаканне наступнага вечара, калі "вайдаўскі" акцёр, супер-зорка сусветнага кінамастацтва спадар Альбрыхскі павінен быў выйсці перад мінчукамі ў сваім іншым абліччы — тэатральнага акцёра.

Крытыкам як бы не выпадае крычаць "брава!". Я гэта рабіў у той вечар, памяць пра які захаваю на ўсё сваё жыццё. Я быў у ТЭАТРЫ. Госці з Варшавы напомнілі, што ёсць тэатр. Гэта мастацтва духу, развіцця душы, духоўнасці чалавека, не пазбаўленага комплексаў, здольнага радавацца і пакутаваць — жыць. Сачыць за гэтым — найцікавейшы занятак. Мы зразумелі, што тэатральнасць — гэта не толькі і зусім не столькі відовішчна-пастановачны бок спектакля. Тут увогуле рэжысёр А.Матысяк выкарыстоўвае некалькі пражэктараў, а дэкарацыі змяшчаюцца ў дзвюх валізках, мізансцэны дык і ўвогуле застыгла-статычныя. Тэатральнасць у пластыцы душы акцёра, які выразны ў багатым унутраным перажыванні свайго асабістага, толькі яму наканаванага, лёсу. Амерыканцы ўмеюць пісаць псіхалагічныя ціхія драмы, акцёры нашага свету, праўда, буйнейшыязіх,умеюцьіхсыграць.П’есаА.Р.Гарні "Лісты кахання" ("The Love Letters") — трагікамічная гісторыя ўзаемадачыненняў Мужчыны і Жанчыны праз лісты. Героі Даніэля Альбрыхскага і Барбары Ужэсіньскай вядуць доўгі дыялог, праз усё сваё жыццё, ад падлеткавага ўзросту да самай смерці, — дыялог нерэалізаванага кахання. Каханне, якое было і не было, але вызначыла правілы гульні жыцця дзвюх асоб. "Бачная" рэжысура спектакля толькі ў акцэнце на зыходнай пазіцыі, якая не будзе разбурана ні на імгненне: герой за сталом акуратна раскладвае свае грунтоўныя творы эпісталярнага жанру, гераіня на ложку раскідвае свае нервова-лаканічныя лісты, паштоўкі. Далей — рэжысура "нябачная": складаныя, найтанчэйшыя рухі псіхікі і фізікі двух розных людзей — прырода чалавека. Кожнае слова нараджаецца толькі тады, калі яго нематэрыяльны сэнс пражыты, адчуты знутры акцёрам. У спектаклі без сексу Даніэль Альбрыхскі сыграў секс, — вышэйшы пілатаж сучаснага псіхалагічнага тэатра. І яшчэ. Надзвычай цікава было бачыць, як майстэрства тэатральнага акцёра спалучаецца з майстэрствам экраннага мастацтва. Спадар Альбрыхскі ідзе ад нутра, нутром вызначаюцца, аргументуюцца міміка, жэсты, пластыка, якія ён віртуозна, эфектна фіксуе на некалькіх долях секунды — насычанае духоўнае, псіхалагічнае жыццё і выключная сцэнічная выразнасць. Многага варты, да прыкладу, выхад на паклон акцёра ў фінале: ён, Даніэль Альбрыхскі, усмешкай вітае гледачоў і зноў пакідае сцэну ў псіхалагічным стане і пластыцы свайго персанажа.

Праграма Дзён прадумана да дробязей. Іх атмасферу вызначыла тое, што госці Мінска, польскія акцёры-вайдаўцы ўвесь час існавалі побач са сваімі экраннымі героямі. Спадар Альбрыхскі з'яўляўся перад публікай, кантактаваў з ёй, да і пасля сваіх фільмаў. У адзін вечар мы захапляліся майстэрствам спадарыні Станіславы Цэліньскай у карціне "Краявід пасля бітвы", а на наступны дзень глядзелі яе монаспектакль "Усміхніся". І гэта быў вельмі мілы паводле атмасферы вечар. Беларуская публіка пазнаёмілася яшчэ з адной традыцыяй польскага тэатра і эстрады — акцёрскай песняй. Вясёлыя, нават разбітныя песні спалучаліся з пранізліва-шчымлівымі ці песнямі-крыкамі душы і выліваліся ў споведзь, бачанне свету жанчыны і актрысы Цэліньскай. Успомніліся Эва Дэмарчэк, Анджэй Росевіч.

"Запаветная зямля", "Краявід пасля бітвы", "Попел і дыямент", "Беразняк", "Паненкі з Вілька", "Пілат і іншыя" — гісторыя чалавецтва і чалавека ў псіхалагічных вобразах і найвыразнейшых сімвалах, метафарах прайшла перад нашымі вачыма за тыдзень. Свет спадара Вайды, свет кінематографа, польскай, еўрапейскай, хрысціянскай культуры.

Гэтыя радкі пішуцца ў чаканні дзвюх апошніх імпрэз Дзён — дэманстрацыі апошняй работы Майстра, фільма "Пярсцёнак з арлом у кароне", і знакамітага "Дантона", якім і закрываецца свята. А я ўжо задаю спадару Галкоўскаму пытанне: "Занусі, Вайда, хто наступны?"

**Вячаслаў РАКІЦКІ**

На здымках: М.Галкоўскі, А.Леуцы (аташэ амбасады Італіі ў Мінску) і Д.Альбрыхскі падчас фуршэту; Д.Альбрыхскі і Б.Ужэсіньска ў спектаклі "Лісты кахання"; госці з Польшчы.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

СІТУАЦЫЯ

# ЧАМУ НЯМА ЧАРГІ ЗА ЧЭКАМ?

Пра грошы кажуць, што яны як талент: калі ёсць, дык ёсць, а калі няма, то і няма. Можна сказаць прасцей — грошы ёсць грошы. З імі, як той казаў, усё ясна. А вось што такое чэкі? Эканамісты сцвярджаюць, што яны таксама грошы, толькі патэнцыяльныя, будучыя. Хоць і сёння, цяпер, яны маюць свой кошт, свой намінал. Аднак намінал гэты, так бы мовіць, умоўны, сёння ён адзін, а заўтра — іншы, мо большы, а можа і меншы.

Вядома, размова не пра тыя чэкі, якія забяспечаны вашымі грашыма ў ашчадным банку, а пра тыя, якія называюцца прыватызацыйнымі і сімвалізуюць сабою вашу долю, вашу частку раздзяржаўленага грамадскага багацця. І доля гэтая можа ўзрастаць, калі вашыя чэкі кудысьці ўкласці, каб яны працавалі на тую ці іншую вытворчасць, "круціліся" ў ёй і "накручвалі" вам дывідэнды, звычайнай мовай кажучы — прыбытак. Словам, чэкі нечага вартыя. Ды чамусьці насельніцтва наша не спяшаецца гэтыя прыватызацыйныя чэкі атрымліваць. Ва ўсякім разе чаргі за імі няма. Па стане на 1 кастрычніка 1994 года за налічэннем чэкаў звярнуліся толькі 1 мільён 900 тысяч чалавек, альбо ўсяго 24 працэнты ад агульнай колькасці грамадзян нашай рэспублікі, якія маюць права на набыццё чэкаў. Людзі нібыта не ведаюць "Пастановы аб прыватызацыйных чэках", якую нядаўна падпісаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Між тым у пастанове гэтай сказана, што выдача чэкаў заканчваецца 1 ліпеня 1995 года, а тэрмін куплі акцый, якія можна набыць за чэкі, скончыцца 1 студзеня 1997 года. Тэрміны вызначаны, а людзі па-ранейшаму "вагаюцца". Чаму? Мо яны і сапраўды не ведаюць пра названую вышэй пастанову Вярхоўнага Савета? Ці, мо, і хацелі б атрымаць свае чэкі, ды занадта многа клопатаў з набыццём розных даведак, без якіх чэкі не выдадуць? Ці проста недавер да новых "гербавых паперак", якія нічога не гарантуюць, як нічога не гарантавалі розныя, яшчэ даўніх савецкіх часоў, аблігацыі, расхалоджвае людзей?

Як бы там ні было, а за чэкамі не ідуць. У той час, як на Беларусі ўжо створана 19 інвестыцыйных фондаў, якія гатовыя працаваць з нашымі чэкамі. Праўда, у Чэхіі, насельніцтва якой па колькасці прыкладна такое ж, што і ў нас, дзейнічае больш за 300 інвестыцыйных фондаў. Бо чэхі амаль адразу зразумелі, што такое прыватызацыйны чэк, і актыўна рэалізуюць сваё права на пэўную долю грамадскага багацця на рынку каштоўных папер.

Думаецца, што пасіўнасць беларусаў у дачыненні да чэкаў тлумачыцца перш за ўсё тым, што многім з нас дагэтуль не ясна да канца, у чым сутнасць чэка. Гэта па-першае. А па-другое — кепска наладжана рэклама інвестыцыйных фондаў. Пра большасць з іх ніхто нават і не чуў. Ды што там пра большасць — амаль пра ўсе! Толькі І-ы Інвестыцыйны фонд штодзень заяўляе аб сабе з экрана тэлевізара альбо праз радыё, астатніх жа нібы няма на свеце. Але ўсе яны, відаць, існуюць не толькі на паперы і ўсе атрымалі ад дзяржавы ліцэнзіі на сваю дзейнасць. І на гэтым супакоіліся? Чакаюць, што інвестар сам іх знойдзе? Ні ў якім разе! Бо ў беларускага "інвестара" які менталітэт? Якія жыццёвыя правілы? Не спяшайся, чалавеча, пачакай, паглядзі. Хай сусед спачатку паспрабуе, а ты потым. Цішэй едзеш, далей будзеш... Аднак жа і "сусед" таго ж прынцыпу прытрымліваецца! Таму, відаць, трэба гэты наш менталітэт рашуча тармашыць, штодзень растлумачваць чалавеку, што такое той жа чэк, што такое інвестыцыя і што ён можа з яе мець. Вядома, гэта справа спецыялістаў, якія павінны не эпізадычна, не час ад часу, а літаральна штодзень размаўляць з людзьмі і з тэлеэкрана, і ў радыёэфіры.

Вернемся яшчэ раз да рэкламы, звязанай з тэмай нашай размовы. Нядаўна прамільгнула аб'ява, што ў кожным аддзяленні Ашчаднага банка можна падпісацца на акцыі інвестыцыйных фондаў і разлічыцца за іх прыватызацыйнымі чэкамі. Ды каб жа гэтак! Высветлілася, што, напрыклад, у філіялах мінскіх аддзяленняў Ашчадбанка пра нейкія там акцыі нават і не чулі. А філіялаў больш, чым саміх аддзяленняў. Вось табе і аб'ява! Калі людзей і надалей будуць інфармаваць гэткім чынам, калі інвестыцыйныя фонды і надалей будуць заставацца "інкогніта", дык ці не "ляснуць" у рэшце рэшт і чэкі, і фонды, і сама справа чэкавай прыватызацыі? Ці, мо, тут ёсць пэўны разлік? Мо тут нейкая невядомая і незразумелая простым смяротным палітыка? Не ведаю. Ведаю толькі, што існуе небяспека простым людзям зноў застацца ў дурнях. Таму хочацца падштурхнуць: "Станавіцеся, даражэнькія, у чаргу па свае чэкі! Вы іх зарабілі сваім каркам, у іх хоць і невялічкая, але ваша доля ўсяго багацця рэспублікі. А вы маеце права на сваю долю. За кожны свой чэк. Ну, а калі не вельмі гоніцеся за гэтым прыбыткам, не верыце, што яго атрымаеце, дык хоць прадайце свой чэк па намінале, а дакладней, пакладзіце на чэкавую кніжку. Гэта ж вашы грошы. І лепш, калі яны ёсць, чым няма. Хіба няпраўда?"

**Рэгіна БАКУНОВІЧ**

# СПОРТ І КУЛЬТУРА: ТЭСТ НА ВЫЖЫВАННЕ

Чарговае пераўтварэнне спартыўнай галіны Беларусі выклікала супярэчлівую рэакцыю з боку яе прадстаўнікоў. Шмат хто з іх не лічыць мэтазгодным аб'яднанне Дзяржкамспорту з Міністэрствам культуры і друку. Наша краіна, як вядома, мае моцны спартыўны патэнцыял, але якое гэта мае дачыненне да культуры і друку? — пытаюцца ў сваёй заяве, адрасаванай Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь, славутыя чэмпіёны на чале з легендарным гімнастам Віталем Шчэрбай. Зачытаў гэты дакумент у парламенце дэпутат Павел Холад, які звярнуўся да Канстытуцыйнага суда наконт законнасці пастановы прэзідэнта аб рэарганізацыі Дзяржкамітэта па фізічнай культуры і спорту.

— Колькі памятаю, — сказаў П.Холад, — фізкультурны рух вядзе барацьбу за выжыванне. Яго расцягвалі ўбакі, далучалі, аб'ядноўвалі, пераўтваралі. Прычым функцыянеры амаль заўсёды прапаноўваюць варыянты, добрыя выключна для сябе . Адны з іх, нібыта, забываюць, што цяпер галоўнае не ставіць пытанні, крытыкаваць і прапагандаваць, а хутка і якасна рашаць іх. Другія робяць прапановы, якія даўно адпрэчыла само жыццё. Дастаткова прыгадаць 1953 год, калі рэспубліканскі спорткамітэт быў скасаваны. Замест яго стварылі ўпраўленне па фізічнай культуры і спорту ў складзе Міністэрства аховы здароўя БССР. У выніку нанеслі вялікую страту ўсяму фізкультурнаму руху. Праз год грамадскасць запатрабавала ўзнавіць працу спорткамітэта і яго галіны.

У апошнія гады, калі галіна мела дзяржаўны статус, узмацніліся міжнародныя сувязі, пачалася актыўная работа па ўдасканальванні ўсёй сістэмы фізкультуры і спорту. З іншымі краінамі свету заключаны карысныя кантракты, якія працуюць на развіццё спорту ў Беларусі. Што цяпер рабіць Дзяржкамспорту, калі ліквідавана яго структура? Мне, як дырэктару вучэбна-спартыўнай базы мястэчка Плешчаніцы, добра бачныя змены. Пабудаваны стадыёны, залы, людзі пачалі актыўней займацца спортам, увогуле змяніліся адносіны да свайго здароўя. У спартыўных школах павялічваецца колькасць дзяцей.

Гаспадарнікам усіх рангаў час зразумець, што фізкультура і спорт — катэгорыя сацыяльна-эканамічная і да яе трэба падыходзіць сур'ёзна. А хістанне ўбакі нікому карысці не прынясе. Ліквідацыя Дзяржкамспорту і яго падраздзяленняў прывядзе да хаосу. Пры гэтым, беручы да ўвагі паслячарнобыльскія праблемы, ні ў Міністэрства аховы здароўя, ні ў Мінкультуры і іншых міністэрстваў да патрэб фізкультурнікаў і спартсменаў проста не дойдуць рукі.

Вядома, можна зразумець імкненне новых людзей у вышэйшай дзяржаўнай уладзе пераўтварыць работу выканаўчых органаў, аднак нельга ўявіць сабе вобраз Міністэрства культуры і друку са штангай на плячах, хай сабе і на гербавай паперы будзе змешчаны знакаміты Аляксандр Курловіч.

Вопыт развітых краін пераконвае, што фізічнай культуры і спорту неабходны дзяржаўны статус. Клопат аб здароўі і народа, і кожнага чалавека — гэта не чарговая кампанія. Гэта ўсенародная справа, без якой мы не пераадолеем крызісу. А пра новых алімпійскіх чэмпіёнаў і гаварыць не даводзіцца...

**Вячаслаў ДУТАЎ (БЕЛІНФАРМ), спецыяльна для "Культуры"**

# СЛАВЯНСТВА... УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

У канцы мінулага месяца Славацкая Рада Аб'яднання славянскай узаемнасці сумесна з Маціцай славацкай наладзіла Міжнародны навуковы семінар. У Браціславу былі запрошаны прадстаўнікі ўсіх славянскіх дзяржаў, вядомыя вучоныяславісты, гісторыкі і літаратары. Ад Балгарскай Рэспублікі ў семінары браў удзел Іван Буюклieў — прафесар Сафійскага універсітэта, накіраваны фондам "Славямі". Польскую Рэспубліку прадстаўляў Зыгмунд Вуйцік — пісьменнік, старшыня Польска-славацкага таварыства; Украінскую Рэспубліку — Іван Драч, пісьменнік, старшыня Украінскай сусветнай каардынацыйнай Рады; Чэшскую Рэспубліку — Яраслаў Ваўра, прафесар, старшыня Чэшскай асацыяцыі русістаў; Рэспубліку Беларусь — аўтар гэтых радкоў, якога дэлегавала Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі сумесна з Інстытутам гісторыі АН Беларусі. З боку гаспадароў у семінары ўдзельнічалі Ёзаф Мравік — доктар, старшыня Славацкай Рады Аб'яднання славянскай узаемнасці, і Андрэй Чэрвэнак, прафесар педагогікі з горада Нітра, ён жа быў навуковым сакратаром семінара, і прадстаўнік Маціцы славацкай з горада Мартына Station Станіслаў Баянік, яе сакратар.

Першае слова ад замежных гасцей было дадзена пасланцу Рэспублікі Беларусь (згодна са славацкім алфавітам). Па папярэдняй дамоўленасці ўсе выступоўцы карысталіся дзяржаўнай мовай сваёй краіны.

Тэмай майго рэферата былі беларуска-славацкія дачыненні ў святле гістарычных рэаліяў, адзначалася, што сёлетні год на беларускай зямлі і на эміграцыі праходзіць пад знакам 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года. Прагрэсіўная грамадскасць асэнсоўвае гэтую высакародную, патрыятычную і адначасова трагічную падзею. Мы ўшаноўваем памяць Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі — кіраўніка паўстання, героя вызваленчай вайны за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, Літвы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі. Ушаноўваем памяць усіх яго паплечнікаў і ваяроў.

У рэфераце падкрэслівалася, што страта Беларуска-Літоўскай дзяржавай у канцы XVIII стагоддзя сваёй незалежнасці спрычынілася да патрыятычных хваляў эміграцыі з яе земляў на чужыну. Характэрнай асаблівасцю было тое, што яна супала з пачаткам славацкага нацыянальнага Адраджэння, калі дзякуючы патрыятычнай дзейнасці перш за ўсё Антона Бэрналака (1762 — 1813) і Людовіта Штура (1815 — 1856) стварaліся перадумовы станаўлення сучаснай славацкай нацыі і развіцця літаратурнай славацкай мовы. Змаганне народа за сваю родную мову і было своеасаблівай формай вызваленчай барацьбы прыгнечанай славянскай нацыі.

Існаванне ў заходніх краінах значнай колькасці краёвай эміграцыі стымулявала на радзіме вызваленча-патрыятычны рух. Асабліва яскрава ён праявіўся сярод студэнцкай моладзі Віленскага універсітэта, які стаў пасля напалеонаўскага паходу на Расію найбуйнейшым цэнтрам культуры і навукі на беларуска-літоўскіх землях. Пераканаўча даводзілася, што ў дзейнасці філаматаў (сяброў навукі) было шмат агульнага з ідэалогіяй штураўцаў — славацкіх будзіцеляў. Зазначалася, што акрамя шляхоў падабенства былі і свае асаблівасці. Так, напрыклад, штураўцам удалося згуртаваць славацкую евангелісцкую і каталіцкую інтэлігенцыю, а гэта пазбавіла патрыятычны рух ад рэлігійных рознагалоссяў. У выніку славацкая інтэлігенцыя змагла шчыра і аддана прысвяціць свае сілы і веды народнай справе, нацыянальнаму руху.

У рэфераце аналізаваліся шляхі нацыянальнага і культурнага Адраджэння славянскіх народаў у другой палове XIX і у XX стагоддзі, якое насычана бурнымі падзеямі міжнароднага жыцця — войнамі, нацыянальнымі рэвалюцыямі і паўстаннямі, аднак імкненне ў славянскіх народаў да незалежнасці не згасала, бо, як апавяшчалі паўстанцы 1863 года на беларускіх землях, незалежнасць ёсць умова сапраўднага шчасця кожнай нацыі.

Удзельнікі семінара (І.Буюклieў, Я.Ваўра, З.Вуйцік, І.Драч, Л.Мірачыцкі) разглядалі культурныя і навуковыя кантакты са славацкім народам, канкрэтызавалі іх з гледзішча патрэбаў часу і ў інтарэсах кожнай славянскай нацыі, яе духоўнасці на падставе раўнапраўя, узаемнай павагі дзяржаўнага суверэнітэту.

Зыходзячы з суверэннасці сваіх дзяржаў і ўлічваючы багатую гістарычную і культурную спадчыну славянскіх народаў (мова, звычаі, традыцыі, фальклор, літаратура, мастацтва і г.д.), вучоныя пагадзіліся, што трэба ўсебакова развіваць узаемны абмен культурнымі здабыткамі, вывучаць і папулярызаваць іх паводле прынцыпаў дэмакратыі і гуманізму, не падзяляючы нікога на малодшых і старэйшых братоў і сясцёр.

На семінары аналізаваліся імперскія ідэі ў Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропе ў ранні сярэднявеччы і пазнейшыя часы, што прыводзіла да нацкоўвання адных народаў на другія, захопу чужых земляў, працяглых міжнародных канфліктаў і войнаў. А гэта, як вядома, перашкаджала самавыяўленню славянскіх народаў і адраджэнню іхняй дзяржаўнасці.

Работу семінара і прэс-канферэнцыі, у якой удзельнічалі шматлікія журналісты і акрэдытаваныя работнікі пасольстваў замежных краін, асвятлялі друк і тэлебачанне Браціславы.

Мяркуючы па прэс-канферэнцыі, навуковы семінар "Славянства ўчора, сёння, заўтра" стаў важнай падзеяй у культурным і навуковым жыцці Славацкай Рэспублікі. Думаецца, што гэта пэўны набытак для ўсёй славянскай супольнасці. Дзякуючы энергіі і клопатам славакаў іншыя славянскія народы атрымалі яскравы прыклад плённай працы дзеля ўмацавання дэмакратыі і гуманізму. Наступны семінар вырашана правесці ў 1995 годзе на Украіне, у горадзе Кіеве.

**Леў МІРАЧЫЦКІ**

# КРОК НАСУСТРАЧ У НОВЫХ КАЛГОТКАХ

Дабрачынная арганізацыя "Сіці-Хоўп Інтэрнэшнл" ужо добра вядомая жыхарам Беларусі ды іншых краін СНД бескарыслівай дапамогай пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы, інвалідам і састарэлым. За апошнія некалькі гадоў яна даставіла ў Беларусь медычнага абсталявання і медыкаментаў на 73 млн. даляраў, а таксама 17200 тон прадуктаў. Са Злучаных Штатаў Амерыкі да нас прыязджалі некалькі соцень валанцёраў, каб уласнай працай дапамагаць ахвярам Чарнобыля.

На жаль, дабрачынныя арганізацыі не маюць дастатковай колькасці кваліфікаванага персаналу, каб аказаць дапамогу ўсім, каму яна патрэбная. Дзеля вырашэння гэтай праблемы "Сіці-Хоўп Інтэрнэшнл" распрацавала новую праграму "Крок насустрач", аб чым кіраўніцтва беларускага аддзялення гэтай арганізацыі, у прыватнасці спадарыня Юлія Бураўкіна, паведаміла на прэс-канферэнцыі, якая адбылаоя 7 лістапада ў Рэспубліканскім палацы піянераў.

Зрабіць свой "крок насустрач" пагадзіліся ўжо больш за 100 беларускіх жанчын. Рухавіком гэтай праграмы можна назваць прынцып самога капіталізму: "кожны добры ўчынак павінен быць узнагароджаны". Амерыканскія кампаніі падаравалі вялікую колькасць спажывецкіх тавараў (у тым ліку 3,6 млн. калготак), якімі будуць узнагароджаны жанчыны, што пагодзяцца даглядаць за хворымі, інвалідамі і састарэлымі. За кожныя 4 гадзіны валанцёрскай працы жанчына атрымае ў якасці сімвалічнага падарунка пару вельмі прывабных калготак ад фірмы "Сара Лі".

Дапамагаць можна не толькі працай, але і грашыма. За кожны грашовы ўнёсак, эквівалентны 1,5 далярам, жанчыну чакае такі ж падарунак. Валанцёры могуць па ўласным жаданні выбраць установу для дабрачыннай працы альбо матэрыяльнай дапамогі. Гэта могуць быць бальніцы, інтэрнаты, дамы састарэлых, а таксама адукацыйныя і культурныя цэнтры. Інфармацыю аб патрэбах кожнай установы можна атрымаць у штабе праграмы "Крок насустрач". Напрыклад, можна накіраваць свае ахвяраванні ў Дом дзіцяці N 3 для пакупкі жыццёва неабходных інкубатараў або ў анкалагічны шпіталь N 2 для пацярпелых ад чарнобыльскага выбуху.

Кантактныя тэлефоны:
27-86-61, 27-12-84

**Наш кар.**

# СЬВЯТА, ЯКОЕ БУДЗЕ

***Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", Арганізацыйны Камітэт па сьвяткаваньні 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну зьвярнуліся да грамадзян Беларусі з адозваю.***

**Дарагія суродзічы!**

Прыміце нашы шчырыя віншаваньні з нагоды 74-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну!

У нашай гісторыі ёсьць шмат гераічных старонак. Мы ведаем, што беларусы ў вольным сьвеце заўжды адзначалі іх. Гэта надавала нам сілы ў барацьбе з таталітарным рэжымам.

У 1992 годзе Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" разам з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі ўпершыню публічна адзначыў угодкі Слуцкага Збройнага Чыну. У Менску, Слуцку, Семежаве адбыліся мітынгі, прайшла таксама навуковая акадэмія.

Дзякуючы намаганьням нацыянальных дэмакратычных сілаў Беларусь адбудоўвае сваю дзяржаўнасьць. Мы верым у сьветлую будучыню сваёй Бацькаўшчыны, верым, што ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі Слуцкі Збройны Чын, як і іншыя гераічныя падзеі нашай гісторыі, будуць афіцыйнымі нацыянальнымі сьвятамі.

**Жыве Беларускі Народ! Жыве Беларусь!**

МАСТЫХІН КАМЕРТОН

# "НАС УСПРЫНЯЛІ ЎСУР'ЁЗ..."

***У Маскве, у выставачнай зале "Ізмайлава" адбыўся вернісаж, дзе экспанаваліся творы трох мастакоў з Наваполацка — Віктара, Вольгі і Улі Лук'яненкаў: бацькі, маці і дачкі. Пра тое, як яна праходзіла, якія выклікала думкі ды пачуцці, — наша сённяшняя гутарка з галавой сям'і — Віктарам Лук'яненкам.***

**— Па-першае, Віктар, віншую цябе з гэтай падзеяй, проста скажам — неардынарнай. Цікава, што адчувае мастак з Наваполацка, выстаўляючы свае працы ў Маскве? Па палітычных мерках Масква, вядома, для нас не сталіца, але сёння наша размова не пра палітыку...**

— Ці адчуваў я сябе правінцыялам, якога дапусцілі ў сталіцу? Не. І вось чаму. Я заўсёды ведаў, што Масква — гэта вялікі горад з глыбокімі культурнымі традыцыямі. Парыжа я не бачыў, але ў тым, што сталіца мастацтва — Парыж, а ўсё астатняе — правінцыя, перакананы. Так што... Я — вучань Валянціна Зэйлерта, які ведаў, любіў і захапляўся Шагалам, Малевічам. Мае карані — у Віцебскай школе выяўленчага мастацтва, Вользіны — у Мінскай. Дык чаму мы павінны адчуваць сябе правінцыяламі? Тое ж, што мы зрабілі, што нам удалося альбо не ўдалося, існуе ўжо незалежна ад нас і ад нашага месцазнаходжання.

**— І як жа ім жывецца, вашым творам, у іхняй незалежнасці?**

— Мастак піша карціны, сярод гэтых карцін зазвычай бывае некалькі твораў, а можа іх і не быць. У Маскве нам давялося пачуць думку многіх мастацтвазнаўцаў пра тое, што мы зрабілі. І безумоўна, парадавала, што яны ўбачылі творы кожнага з нас.

**— Так, я чытала некаторыя водгукі ў маскоўскай прэсе. Бальзам для творчай душы ў іх ёсць, прынамсі, адзнака мастацтвазнаўцы Веры Холапцавай даволі высокая. Дарэчы, тваю творчасць у гэтых водгуках часцяком залічваюць да стылю гэтак званага метафізічнага рэалізму. Сам ты як гэта ўспрымаеш?**

— Напэўна, штосьці ў гэтым ёсць. Праўда, нядаўна "Віцебскі рабочы" адным махам залічыў і Уліну "Планету Лулундзі" да метафізічнага рэалізму. Гэта ўжо трохі смешна. Ды я лічу, што ўсё гэта не наша справа, а справа мастацтвазнаўцаў.

**— Не будзем адбіраць у іх хлеб?**



— Так, менавіта. Тым больш, што ў вызначэнні стыляў прысутнічае звычайная паспешлівасць, пусты звон. У мяне як у мастака ёсць свой свет. Я досыць доўга яго пішу, увасабляю ў працы, пэўны час даводзілася і адстойваць, змагацца за яго. Але я нікога не клічу ў свой свет, не навязваю яго іншым. Я проста паказваю: вось ён, такі, якім я яго бачу, а вашая справа — прыняць яго альбо адрынуць.

**— А як успрымаецца свет мастачкі Вольгі Лук'яненка?**

— Зразумела, што не кожны можа і хоча ўспрыняць, гэтак жа, як і мой, і Улін. Ёсць такая маскоўская мастачка Таццяна Родзіна. Яна ў захапленні ад Вольгіных твораў, вельмі высока іх ацаніла. Прызнаюся, мяне парадавала, што ў Вольгі сярод масквічоў з'явіліся прыхільнікі яе таленту.

**— Я чытала ў адным з водгукаў, што Вольгіны карціны напоўнены светлым светаўспрыманнем. Напэўна, гэта так. Мабыць, Вольга ў сваёй творчасці найбольш аптымістычная з вас трох. Але, як і дамовіліся, не будзем адбіраць хлеб у іншых. Скажы, а свет Улі, ён адкуль? І наколькі яму ўтульна сярод нашага, зямнога свету? Ейная "Планета Лулундзі", заселеная цмокамі, дзівоснымі матылямі, змеямі, яна адкуль?**

— Я лічу, што ў кожнага чалавека ёсць свая планета альбо свая зорка: горад гэта ці рака, лес альбо вёска, быль альбо казка. Наколькі б Уліны героі ні былі фантастычныя, я ўсё адно перакананы, што адбітак Прыдзвіння на іх ёсць. Мы ўсе дзеці Космасу, Зямлі. І рэалістычны прыдзвінскі пейзаж мастака — гэта яшчэ не сведчанне ягоных глыбокіх каранёў. Проста адны гэта нібы выстаўляюць напаказ, а ў друугіх яно схавана глыбока і часам увасабляецца ў зусім нечаканых вобразах, часам — нечаканых для самога мастака.

**— Гэта як і карані ў дрэў: адно пускае іх па зямлі, і мы аб іх можам нават спатыкнуцца, а другое, гэтак глыбока запусціць іх — не докапаешся...**

— Вось-вось. Зямля нараджае людзей, а людзі нараджаюць казкі. У Ульяны таксама ёсць свая казка, што ажыла на ейных 30 графічных малюнках. Яна ўспомніла сваю "Планету Лулундзі" дый захацела паказаць яе людзям.

**— Ты лічыш, што яна яе ўспомніла?**

— Хто яго ведае, мы ўсе так доўга жывем... Можа, і ўспомніла. Казаць, што прыдумала, неяк нясціпла. Гэта так шмат, калі прыдумала...

**— А ці была ў Маскве крытыка вашых прац?**

— Крытыка?.. Ды не, здаецца, яркага, аргументаванага непрыняцця не было. Можа, яна заставалася нявыказанай. Праўда, было пэўнае "змяшчэнне акцэнтаў", калі ты сам бачыш у сваёй карціне адно, а людзі іншае. Але ж гэта так натуральна...

**— Тры мастакі выставілі свае працы ў трох залах. Можна лічыць, кожны меў сваю асабістую выставу. І гэта, безумоўна, падзея для кожнага. Усе засталіся задаволеныя гэтай падзеяй?**

— Так. Вельмі. Разумееш, самае галоўнае, што нас успрынялі ўсур'ёз.

**— Гэта значыць, што паблажлівага паляпвання па плячы вы не адчулі? У такім разе я вельмі радая за вас, бо, мабыць, кожны творчы чалавек хоча гэтага — каб яго ўспрымалі ўсур'ёз, для кожнага важна разуменне. Скажы, Віктар, а вы самі добра разумееце адзін аднаго, заўсёды ўспрымаеце адзін аднаго ўсур'ёз? Не цесна тром мастакам пад адным дахам?**

— Ды не, ты ведаеш, не цесна. Галоўнае, мне здаецца, што кожнаму Бог пасылае асобны дар, які належыць ужо толькі яму і нікому больш. І кожнаму трэба як мага больш дасканала рэалізаваць яго. У кожнага — свая дарога, і гэта ўжо справа чалавека — наколькі ён далёка зойдзе па ёй. А спадарожнікам вельмі важна ў час падтрымаць таго, хто ідзе сваёй дарогай. Памятаеш у Акуджавы:



"Давайте восклицать, друг другом восхищаться, высокопарных слов не надо опасаться..."

**— А небяспекі захваліць у такім разе няма?**

— Дык усё ж добра ў меру. Я ж кажу не пра адсутнасць патрабавальнасці. Выказаць праўду карысна, важна толькі, каб гэтая праўда не прыбіла ў чалавеку ягоны творчы гонар, жаданне працаваць, ствараць, расці.

**— Словам, праўда павінна быць стымулятарам, а не сякерай?**

— Менавіта. І таму мы ўсе трое ўжываемся побач. Не цесна. Кватэра — гэта праўда — цеснаватая, але ж ты не пра кватэру пытаеш.

**— А што мне пра яе пытаць? Я ж не жыллёвы аддзел, новую не дам для маладой творчай сям'і. А калі падумаць, то ў Улі вунь у дадатак да вашай "хрушчобы" яшчэ цэлая планета ёсць! Дарэчы, а самы малодшы жыхар вашай цеснай кватэры не пачаў яшчэ маляваць?**

— Ды, здаецца, Глеб пайшоў і не па бацьку, і не па маці, і не па сястры. Яму ўсё больш у галаве машынкі, чарапашкі, трансформеры...

**— Ну, не сумуйце, трэба ж некаму і справай займацца, не ўсё ж на штукарства жыць. Дарэчы, "штука" па-польску — мастацтва, а ў нас гэтае слоўца набыло гэткі вось жартаўлівы сэнс. І калі мы ўжо загаварылі пра яго вялікасць Побыт, то яшчэ адно пытанне. Як вытрымала кішэня мастакоўскай сям'і гэтую маскоўскую выставу?**

— О, гэта асобная тэма, і яна такая нецікавая... Скажу адно: дзякуй усім, хто захацеў нам дапамагчы матэрыяльна і хто дапамог.

**— А тым, хто не захацеў і не дапамог, пажадаем на наступны раз дапамагчы — калі не вам, то нейкаму іншаму мастаку, паэту альбо музыканту. Так?**

— Гэта ж твае словы, ты за іх і адказвай. Што ты ў мяне пытаеш?

**Гутарыла Ірына ЖАРНАСЕК**

На здымках: работы Віктара Лук'яненкі "За парогам вечнага" і "Неспакой".

**Фота Эрнста ЦЕЦЯРЭЎСКАГА**

# СПЫНІСЯ, ІМГНЕННЕ!

Вечарына абяцала быць цікавай. Ужо сама афіша перад будынкам Белдзяржфілармоніі прыцягвала да сябе ўвагу: "Віртуозы фарбаў і гукаў: Мусаргскі — Рэпін, Сомаў — Рахманінаў, Салахаў — Шастаковіч, Канёнкаў — Бах". Якая можа быць сувязь паміж гэтымі кампазітарамі і мастакамі?

Перад мастацтвазнаўцам Алегам Ойстрахам стаяла няпростая задача — паказаць вялікіх майстроў у момант іх найвышэйшага натхнення, трагічнасці і велічы іхняга лёсу. І, як заўсёды, аповяд Алега Рыгоравіча быў змястоўным і захапляльным. Разам з ім уся зала, затаіўшы дых, вандравала па эпохах і стылях, па жыцці гэтых выбітных людзей.

М.Мусаргскі і І.Рэпін. Мастак стварыў вядомы партрэт цяжка хворага кампазітара амаль што перад самай ягонай смерцю. Звяртаюць на сябе ўвагу вочы Мусаргскага, поўныя пакуты, болю і адзіноты: сапраўды, "смуткуе душа"...

К.Сомаў, хаця і вучыўся таемна ў Рэпіна, прыналежаў да іншага мастацкага накірунку — да "Свету мастацтваў". Гэты "чароўны эстэт", як яго называлі, пачаў пісаць партрэт С.Рахманінава ў 1925 годзе, пасля знаёмства з ім у Нью-Ёрку. Мастак здолеў перадаць адначасова летуценнасць, напружанасць роздуму і тугу па радзіме геніяльнага кампазітара. Гэты ж супярэчлівы настрой увасобіўся ў Другую фартэпіянную санату Рахманінава, якую бліскуча выканаў на вечарыне Іосіф Сяргееў, лаўрэат конкурсаў імя Шапэна і А.Рубінштэйна. Трагізм самога быцця і мары аб далёкім цудоўным свеце — усё было ў гэтай музыцы.

Наступная гісторыя сталася нібыта працягам папярэдняй. Д.Шастаковіч і Т.Салахаў. Салахаў — азербайджанскі мастак-"шасцідзесятнік" — з'явіўся стваральнікам новых вобразаў, дзе на змену "станоўчаму герою", упэўненаму ў светлай будучыні, прыходзіць інтэлектуал з ягонымі адвечнымі пытаннямі: "Хто я? Навошта я існую?" Таму ў працах мастака адчуваецца вялікая глыбіня і псіхалагічнасць. Распачаты пры жыцці Шастаковіча, партрэт быў скончаны пасля ягонай смерці. Чорны фрагмент раяля — нібыта жалобная рамка па краях карціны. Вельмі экспрэсіўна прагучала сола скрыпкі з ІІ часткі Чацвёртага квартэта Шастаковіча, які выконваў мінскі "Ludus-квартэт". Журботны роздум пастулова перарос у шалёную энергію рытму ІІІ часткі квартэта. Гэты твор быў напісаны ў 1950 годзе — у жудасны час для кампазітара.

Нечаканым для аўдыторыі было ўбачыць партрэт І.-С.Баха — вельмі нязвыклы, без ідэалізацыі. Як і ў жыцці кожнага чалавека, у яго былі свае цяжкасці і радасці, але ўздымала над імі — творчасць. С.Канёнкаў здолеў перадаць гэтую глыбокую думку ў скульптуры нямецкага кампазітара. І як уласная творчасць Баха, гэтая скульптура напоўнена, быццам агромністы фрагмент музыкі, веліччу пачуццяў і адчуваннем гіганцкай прасторы. Сам космас гучаў у фа-мінорнай харальнай прэлюдыі для аргана "Клічу Цябе, Гасподзе!", у Такаце і Фузе рэ-мінор, якія выканаў Ігар Алоўнікаў.

І яшчэ адзін сюрпрыз. Л. ван Бетховен і А.Бурдэль, які стварыў 13 партрэтаў кампазітара. Найбольш дзіўны з іх — апошні, створаны ў 1918 годзе. Перад намі адкрыўся жудасны, трагічны дух чалавека — "вулканічная лава, што расцяклася па твары". Як лагічнае завяршэнне ўсёй вечарыны прагучаў бурлівы бетховенскі запавет — 32-я фартэпіянная саната ў выкананні І.Алоўнікава.

Дзякуючы нечаканым экскурсам у выяўленчае мастацтва музычная вечарына атрымалася надзвычай захапляльнай. Тут панавала Прыгажосць — і хацелася спыніць імгненне...

**Алена ЛІМАРЭНКА**

# НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ, НОВЫЯ ІМЁНЫ

Незабыўнымі застануцца для мінскіх паклоннікаў класічнага мастацтва восеньскія музычныя вечары ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, прысвечаныя Дням культуры горада Бона ў Мінску. Сапраўдным сюрпрызам з'явіўся канцэрт камернага аркестра Бонскага універсітэта "Калегіум-музікум" пад кіраўніцтвам дырыжора Вальтэра Міка, што адбыўся 23 кастрычніка ў Вялікай канцэртнай зале.

Не зважаючы на маладыя гады кожнага пакалення музыкантаў, нямецкі аркестр з поспехам выступае па ўсім свеце больш за сорак гадоў. Канцэрт прыемна парадаваў і здзівіў нашых слухачоў унікальнай праграмай, якая складалася з сімфанічных твораў юнага Людвіга ван Бетховена і ягоных сучаснікаў Ф.Вальдштайна і Дж.Тушмуліна, музыка якіх яшчэ не гучала на беларускай канцэртнай сцэне. Асляпляльна-запальным жывым выкананнем аркестранты захапілі з сабой зачараваных слухачоў у свет іскрыстага свята. Лёгкія зграбныя пасажы скрыпак, мяккія празрыстыя, нібы сонечнае святло, мелодыі флейт і габояў нагадвалі прамяністасць моцартаўскіх сімфоній, канцэртаў, дывертысментаў.

Апантанымі авацыямі публіка адарыла юнага піяніста Івана Сцепанцова, дыпламанта міжнародных і міждзяржаўных конкурсаў, вучня ліцэя, які ў сатворчасці з аркестрам нямецкіх студэнтаў вынес на суд публікі невядомы твор Бетховена — Канцэрт Es-dur для фартэпіяна з аркестрам (без опуса), што быў напісаны ім у чатырнаццацігадовым узросце. Музыка Бетховена сугучная жыццесцвярджальным вобразам эпохі класіцызму, калі пачынаў свой творчы шлях будучы стваральнік гераічна-трыумфальных і лірыка-філасофскіх твораў. Іван Сцепанцоў вельмі тонка адчуў настрой немудрагелістай музыкі канцэрта і перадаў яго ў адкрытай бравурнай манеры. На аўдыторыю зрабілі яркае ўражанне ўпэўненасць і смелая настойлівасць ігры выхаванца ліцэя. Саліст нібы пераўвасобіўся ў дзёрзкага непасрэднага падлетка, захопленага пачуццём стыхійнай творчасці, дзе не можа быць месца ні дылетанцтву, ні кампрамісу, ні млявым бязвольным эмоцыям.

Праграма вечара закончылася выставай Дома-музея Бетховена ў Боне, наладжанай у фае філармоніі. Дзякуючы нямецкім сябрам яе наведнікі атрымалі нечаканую магчымасць агледзець копіі рукапісаў кампазітара, партрэты ягоных сучаснікаў — музыкантаў і сяброў, гравюры архітэктурных помнікаў, звязаных з дзейнасцю нямецкага класіка.

Усе госці, якім пашанцавала наведаць у гэты вечар філармонію, надоўга запомнілі адчуванне жыватворнага далучэння да музыкі Германіі ў атмасферы сяброўскага творчага яднання нямецкіх і беларускіх выканаўцаў.

**Наталля КАЗЛОЎСКАЯ**

СКАРБЫ

# СУМНЫЯ ДУМКІ НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ



Набліжаецца юбілей адной з найбуйнейшых бібліятэк краіны — Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Акадэміі навук Беларусі, але няма ўпэўненасці ў тым, што для яе калектыву 70-годдзе стане сапраўдным святам. Бібліятэка была адкрыта 16 лютага 1925 года пры Інстытуце беларускай культуры і мела ў той час некалькі соцень кніг, падораных у асноўным вучонымі інстытута. Частку першаснага фонду складалі выданні, перададзеныя "Вольным эканамічным таварыствам" і паэтам Янкам Купалам. К пачатку 1926 г. фонд бібліятэкі налічваў звыш 10 тысяч кніг. У канцы 20-х гадоў была набыта каштоўная калекцыя вядомага беларускага гісторыка М.Доўнар-Запольскага, у складзе якой былі прадстаўлены перш за ўсё літаратура пра Беларусь і рэдкія выданні. Стварэнне ў бібліятэцы дублетнага фонду дазволіла весці абмен літаратурай, і ўжо з пачатку 1926 г. завязаліся абменныя сувязі з шэрагам навуковых устаноў Украіны, Латвіі, Літвы, Заходняй Беларусі. У 1928 г. партнёрамі бібліятэкі былі каля 100 арганізацый Савецкага Саюза і 74 установы Польшчы, Германіі, Францыі, ЗША і іншых краін. Ужо ў канцы 20-х гадоў бібліятэка перайшла ведамасны бар'ер. Згодна са Статутам 1928 г., права карыстацца бібліятэкай давалася не толькі супрацоўнікам Інбелкульта, але і вучоным і спецыялістам іншых навуковых устаноў рэспублікі.

1 студзеня 1929 г. на базе Інстытута беларускай культуры была створана Акадэмія навук, а бібліятэка Інбелкульта, фонд якой налічваў каля 30 тысяч экземпляраў, стала бібліятэкай Акадэміі навук. У 1929 г. дырэктарам бібліятэкі быў прызначаны кандыдат археаграфічных навук Дз.Даўгяла, аўтар шматлікіх прац па гісторыі дарэвалюцыйнай Беларусі. Ён узначаліў навукова-бібліяграфічную дзейнасць бібліятэкі. З 1933 г. пачалася падрыхтоўка бібліяграфічнага паказальніка літаратуры па гісторыі Беларусі, а ў 1935 г. — "Бібліяграфіі беларускай літаратуры" (1932 — 1935).

У даваенныя гады ў фонды бібліятэкі паступілі прыватныя калекцыі Я.Громэра, аднаго з вучняў і асістэнта А.Эйнштэйна, балотазнаўцы і палеабатаніка У.Дактуроўскага, прафесара Пецярбургскага універсітэта Б.Эпімаха-Шыпілы, збор кніг па матэматыцы акадэміка АН БССР Ц.Бурстына. У канцы 30-х гадоў рэпертуар перыядычных выданняў складаў больш за 200 назваў часопісаў і газет. У 1939 г. пасля далучэння тэрыторыі Заходняй Беларусі ў бібліятэку была перададзена значная частка кніжных збораў з нясвіжскага маёнтка Радзівілаў, сярод якіх было шмат унікальных старадрукаў. Напярэдадні Айчыннай вайны фонды акадэмічнай бібліятэкі дасягнулі 345 тысяч, яна стала другой па велічыні і значнасці бібліятэкай рэспублікі.

У час вайны бібліятэка была разбурана поўнасцю. Найбольш каштоўная літаратура, адабраная з фондаў атрадам спецыяльнага прызначэння, была вывезена ў Германію. Але потым, яшчэ ў час вайны ў Маскве, спецыяльная група навуковых супрацоўнікаў ужо займалася адборам літаратуры для Мінска з абменных фондаў маскоўскіх бібліятэк. Частку кніг, якія апынуліся ў Германіі, вярнулі савецкія войскі.

Фонды бібліятэкі паступова павялічваліся. Важнай падзеяй была пакупка ў 1957 г. асабістага збору кніг Адама Багдановіча. На 1 студзеня 1965 г. у фондах было звыш 1 мільёна экземпляраў.

У верасні 1964 г. у бібліятэцы арганізаваны спецыялізаваны аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, які стаў другім на Беларусі бібліятэчным падраздзяленнем такога роду. У калекцыі старадрукаваных айчынных і замежных кніг XV — XVIII стст. асаблівае месца займае збор помнікаў славянскага кнігадрукавання: "Евангелие учительное" (Заблудаў, 1669), "Библия" І.Фёдарава (Астрог, 1580), "Евангелие" (Вільня, 1575), "Новы завет с Псалтырью" (Еўе, 1611), "Лексикон славенороссий" Памвы Бярынды (Куцейна, 1563), "Диоптра" (Магілёў, 1698), "Катэхізіс" (Гродна, 1783) і іншыя рэдкія выданні. Даволі вялікі і самастойны раздзел у калекцыі старадрукаў складаюць замежныя кнігі, якія выйшлі ў лепшых еўрапейскіх друкарнях.

Калекцыя кніг грамадзянскага друку прадстаўлена перш за ўсё дакументамі, звязанымі з дзейнасцю Пятра І, выданнямі Расійскай акадэміі навук і Маскоўскага універсітэта з першых гадоў іх заснавання, прыжыццёвымі выданнямі рускіх вучоных і пісьменнікаў М.Ламаносава, І.Ляпёхіна, В.Севяргіна, А.Сумарокава, М.Хераскава, Я.Княжніна і інш.

Галоўнае ж месца ў фондзе рэдкіх кніг займае літаратура пра Беларусь XIX — XX стст., у тым ліку "Вершы" В.Дуніна-Марцінкевіча (Мінск, 1854), "Сялянскія песні з берагоў Нёмана і Дзвіны" Яна Чачота (Вільня, 1846), кнігі друкарняў "Загляне сонца і ў наша аконца", Антона Грыневіча, газеты "Наша ніва", часопісаў "Лучынка", "Саха", "Вясёлка".

Трэба таксама назваць калекцыю рукапісных актаў XVI — XVII стст., рукапісныя кнігі на беларускай мове з арабскай графікай (Аль-Кітабы), архіўны збор Акадэміі навук Беларусі, кнігі з аўтографамі і даравальнымі надпісамі выдатных дзеячаў беларускай навукі і культуры, асабістыя бібліятэкі М.Гарэцкага, П.Беркава, П.Глебкі і інш.

Многія выданні былі набыты супрацоўнікамі аддзела рэдкіх кніг у выніку спецыяльных экспедыцыйных паездак, у прыватных асоб. І сёння бібліятэцы часта прапаноўваюць вельмі цікавыя і нават унікальныя кнігі, аднак ніхто не жадае аддаваць іх за беларускіх "зайцоў", а валютных сродкаў бібліятэка не мае і на замежную навуковую літаратуру.

Універсальныя фонды Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі (ЦНБ АНБ) налічваюць звыш 3 мільёнаў экземпляраў дакументаў розных тыпаў і відаў (ад мініяцюрнай паштоўкі да матэрыялаў на нетрадыцыйных носьбітах інфармацыі), здольных задаволіць самыя разнастайныя запатрабаванні чытачоў. Бібліятэка мае самы вялікі на Беларусі збор замежнай літаратуры, у тым ліку рэфератыўныя часопісы "Chemical Abstracts", "Science Abstracts", даведнікі "The World of Learnig", "The World of Science", энцыклапедыі "Americana", "Britanica", "Larousse", "Encyclopedia International" і многія іншыя замежныя выданні.

Называю ўсё так падрабязна таму, што хачу падкрэсліць, што апошнія гады унікальны фонд замежнай літаратуры ЦНБ АНБ пазбаўлены магчымасцей далейшага развіцця. З 1991 г. бібліятэка не выпісвае замежныя перыядычныя выданні і вымушана адмаўляцца ад вельмі выгадных прапаноў па афармленні падпіскі на льготных умовах. Замежныя навуковыя часопісы і даведачныя выданні, якія на працягу многіх гадоў атрымлівала акадэмічная бібліятэка, былі адзінымі ў рэспубліцы, і страта гэтай крыніцы інфармацыі будзе сапраўднай катастрофай для ўсёй беларускай навукі. Бібліятэцы ў свой час пашчасціла набыць важнейшы даведнік "Science Citation Index", які выдаецца Інстытутам навуковай інфармацыі ЗША. Пошукавыя магчымасці гэтай базы даных прадстаўляюць вялікі інтарэс для навукоўцаў розных спецыяльнасцей і значна спрашчаюць работу з выданнем. На сённяшні дзень бібліятэка валодае інфармацыяй толькі за 1986 — 1990 гг., а набыццё аптычных кампакт-дыскаў за наступныя гады стала вельмі праблематычным.

Адзінай крыніцай камплектавання замежнай літаратуры ў сучасных умовах з'яўляецца міжнародны кнігаабмен, які ЦНБ АНБ ажыццяўляе з 798 арганізацыямі з 39 краін свету. Трывалыя кантакты наладжаны з такімі ўстановамі, як Бібліятэка кангрэса ў Вашынгтоне, Амерыканскае матэматычнае таварыства, Брытанская бібліятэка, Бібліятэка імя Ф.Скарыны ў Лондане, Нацыянальны музей прыродазнаўчай гісторыі ў Парыжы, Бібліятэка Аўстрыйскай акадэміі навук, універсітэты ЗША, Вялікабрытаніі, Японіі і інш. Аднак нельга спадзявацца на пашырэнне і нават на захаванне такіх шырокіх кнігаабменных сувязей. Для вядзення кнігаабмену бібліятэцы неабходны сродкі на набыццё айчынных выданняў і гарантаваныя пастаўкі літаратуры для выканання абавязацельстваў перад замежнымі партнёрамі па іх заказах. Няспынны рост цэн на паперу, паліграфічныя паслугі, вялікія падаткі на выдавецкую дзейнасць зрабілі выпуск навукова-тэхнічнай літаратуры нерэнтабельным, што выклікала істотнае скарачэнне колькасці выданняў і адбілася на якасці выдавецкай прадукцыі. Зразумела, што ўсё гэта значна абвастрае праблему фарміравання бібліятэчных фондаў, ускладняе вядзенне абмену літаратурай з замежнымі краінамі. Пастаянна павялічваюцца паштовыя выдаткі, і бібліятэка ўжо не ў стане аплачваць перасылку ў іншыя краіны.

Мы пастаянна шукаем шляхі выхаду з крызіснага становішча. У выніку паспяховых перамоў з прадстаўнікамі Амерыканскай асацыяцыі садзейнічання развіццю навукі, Міжнароднага навуковага фонду, Нямецкага бібліятэчнага інстытута ў Берліне, кнігагандлёвых фірм Германіі і іншых арганізацый бібліятэка атрымлівае ў якасці гуманітарнай дапамогі многія замежныя навуковыя часопісы і кнігі. Варта ўлічваць, што дабрачынныя акцыі не могуць насіць пастаянны характар, і спадзявацца ў першую чаргу на свае ўласныя сілы. Сёння ў нашай краіне шмат праблем, але трэба памятаць, што адна з галоўных — захаванне і развіццё інфармацыйнага патэнцыялу, без якога немагчымы цывілізаваны ўзровень эканомікі, навукі, тэхнікі, культуры, адукацыі, нацыянальнае адраджэнне Беларусі, немагчыма дасягненне палітычнай і эканамічнай незалежнасці. Рыначная эканоміка, пра якую ў апошні час так многа спрачаюцца, — гэта перш за ўсё жорсткая канкурэнцыя найноўшых тэхналогій. А развіццё сучасных тэхналогій немагчыма без іх базіса — навукі, якая ў сваю чаргу не можа існаваць без апаратыўнай і поўнай інфармацыі. Нашы нашчадкі ніколі не даруюць нам такія згубныя адносіны да навукі і інфармацыйна-бібліятэчных рэсурсаў.

З 1990 года бібліятэка прыступіла да выдання бібліяграфічных паказальнікаў у аўтаматызаваным рэжыме. Такім спосабам падрыхтаваны "Флора і расліннасць Беларусі" (1985 — 1989), "Прырода Беларусі" (1989), паказальнік выданняў ЦНБ АНБ, вядзецца работа па стварэнні і папаўненні іншых баз даных. Але... У друку паведамлялася, што адна Магілёўская абласная бібліятэка набыла 12 камп'ютэраў — пра аснашчэнне ж сродкамі аўтаматызацыі адной з найбуйнейшых бібліятэк рэспублікі пісаць проста сорамна. Невядома, ці будзе ў далейшым магчымасць фінансаваць дадзеную праграму, забяспечыць бібліятэку неабходнай тэхнікай.

ЦНБ АНБ — адзіная на Беларусі навукова-даследчая ўстанова па праблемах бібліятэказнаўства, бібліяграфазнаўства, кнігазнаўства і гісторыі кнігі, яна праводзіць значную навуковую і навукова-метадычную работу, займаецца даследаваннем заканамернасцей фарміравання і выкарыстання інфармацыйна-бібліятэчных рэсурсаў, вывучэннем інфармацыйных запытаў вучоных і спецыялістаў, гісторыі кнігі, бібліятэчнай справы, бібліяграфіі і г.д. Яе супрацоўнікамі падрыхтавана і выдадзена больш за 20 зборнікаў навуковых прац. Дарэчы, бібліятэкары Беларусі (у адрозненне ад сваіх калег з іншых рэспублік былога СССР) пакуль што не маюць свайго прафесійнага часопіса, нягледзячы на шматлікія спробы яго заснавання, якія прадпрымаліся Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй.

Празмерная перагрузка кнігасховішча, у выніку чаго не выконваюцца належныя ўмовы захавання літаратуры (у тым ліку рэдкіх выданняў), нізкі ўзровень механізацыі адмоўна ўплываюць на арганізацыю абслугоўвання чытачоў. У той жа час многія памяшканні бібліятэкі здаюцца ў арэнду.

Пастаяннае павышэнне кошту камунальных, транспартных, паштовых і іншых паслуг, націск падатковай сістэмы і, галоўнае, падаражанне выдавецкай прадукцыі прывялі бібліятэку да вельмі цяжкага становішча. Кожная падпісная кампанія становіцца для адміністрацыі і камплектатараў выпрабаваннем іх маральных і фізічных сіл. А што ўжо казаць пра атмасферу ў калектыве, калі ўсе напалоханы пастаяннай пагрозай скарачэння штатаў! Неаднаразова паведамлялася ў друку пра нізкі ўзровень заработнай платы бібліятэкараў. Яны маюць больш падстаў быць аднесенымі да малазабяспечаных слаёў насельніцтва, чым, напрыклад, ваеннаслужачыя. А большасць работнікаў бібліятэкі — высокакваліфікаваныя кадры, якія валодаюць некалькімі замежнымі мовамі, навыкамі работы на камп'ютэры, маюць навуковыя публікацыі.

Прэзідыум АН Беларусі не ў стане вырашыць усе праблемы бібліятэкі, ды і лёс самой Акадэміі навук яшчэ не вызначаны. Наспела неабходнасць надання ЦНБ АНБ статуса рэспубліканскай навуковай бібліятэкі, тым больш што 70 працэнтаў карыстальнікаў бібліятэкі не з'яўляюцца супрацоўнікамі Акадэміі навук.

Гістарычна склалася так, што бібліятэкі Беларусі шмат разоў палілі, знішчалі, а часцей за ўсё вывозілі з іх на чужыну ўсё самае каштоўнае. Дарэчы, Вярхоўны Савет упарта ўхіляецца ад разгляду праекта "Закону аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь". Адносіны да бібліятэк з боку ўрада як да чагосьці неістотнага, другараднага прыводзяць да таго, што бібліятэкі застаюцца сам-насам са сваімі шматлікімі праблемамі, вырашыць якія самастойна яны не здольныя.

**Наталля БЯРОЗКІНА,**
**кандыдат гістарычных навук**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ПРАЗ ГАДЫ

Аляксандр ЛУКАШУК

# ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА, або ГІСТОРЫЯ ЯНКІ ФІЛІСТОВІЧА

*Дакументальная радыёп'еса*

## ЭПІЛОГ

*(Заканчэньне. Пачатак у №№ 41 — 46)*

**Аўтар:** Янка Філістовіч быў прыгавораны вайсковым трыбуналам Беларускай ваеннай акругі да сьмяротнага пакараньня праз расстрэл. Тыя, хто дапамагаў і не выдаў яго ў апошні год жыцьця на Беларусі, атрымалі розныя тэрміны зьняволеньня. Іх лёсы, як і лёс народжанага ў турме дзіцяці Соф'і, вымагаюць далейшых росшукаў. Чалавек, які прадаў Філістовіча КДБ і атруціў яго снатворным, атрымаў падзяку і кіруючую пасаду. Член Саюза пісьменнікаў БССР Макар Пасьлядовіч атрымаў два ганарары за заказаную КДБ аповесьць "Па воўчых сьцежках" — ад газеты "Звязда" і ад Дзяржвыдавецтва.

Сьледчы КДБ Рыгор Трапш, які вёў справу Філістовіча і не хаваў сваёй прыязьні да яго, амаль адразу пасьля яе завяршэньня быў адпраўлены на заўчасную пенсію. Старонкі сьледчай справы Янкі Філістовіча перагортвалі беларускія чэкісты на сваіх занятках, а таксама адкрывалі яе ў 1971 і 1977 гадах у сувязі з так званымі "сігналамі" грамадзян, іначай, даносамі на былых Янкавых памочнікаў, якія пасьля адбыцьця лагернага зьняволеньня вярнуліся на Беларусь.

У розных кутках сьвету сёньня жывуць сябры Янкі Філістовіча, яго знаёмыя па эміграцыі, якія разам з ім гуртавалі беларускую моладзь у Францыі, вучыліся ў Бэльгіі, удзельнічалі ў падрыхтоўцы яго вяртаньня на Бацькаўшчыну.

На 72 чалавекі зь іх ліку ў 1953 годзе Міністэрствам дзяржбясьпекі была заведзена крымінальная справа, але, як адзначана ў тым дакуменце: "Улічваючы, што гэтыя асобы знаходзяцца за мяжой і прыцягнуць іх да крымінальнай адказнасьці не ўяўляецца магчымым", сьледчыя матэрыялы былі вылучаны ў асобную вытворчасьць і накіраваны ў аператыўнае ўпраўленьне МДБ БССР. Дастаць раскіданых па сьвеце беларускіх выгнаньнікаў у КДБ былі закароткія рукі, таму абыходзіліся прапагандысцкімі кампаніямі кшталту кнігі Макара Пасьлядовіча "Па воўчых сьцежках" і пасквіляў іншых даверaных літаратараў.

Сярод 72 удзельнікаў "замежных антысавецкіх беларускіх нацыяналістычных арганізацый", якія згаданыя ў пастанове сьледчага МДБ, значацца прозьвішчы Аляксандра Лашука, Міхася Наўмовіча, Янкі Запрудніка, Барыса Рагулі.

У аснову радыёп'есы пакладзены пісьмы Янкі Філістовіча Аляксандру Лашуку, які зараз жыве ў Лондане. Вось яго ўспамін пра Янку спецыяльна для гэтага эпілогу:

"Я запазнаў Янку Філістовіча пасьля таго, як яго сям'я са сваёй вёскі пераехала ў мястэчка ў Ільлю. Гэта было пад канец лета ў 1942 годзе. Ён быў тады юнак, якіх можа 16 — 17 гсд. Яго праз нейкі час затруднілі ў малачарні, паколькі гэта быў узрост, калі немцы якраз забіралі моладзь на вываз у Нямеччыну. Ён быў разьвіты, але і ўпарты, так як усе юнакі ў гэтым узросьце.

Страціў я зь ім кантакт, калі ён выехаў з Ільлі ў Вілейку. Адшукаў яго фактычна ўжо па вайне дзякуючы сьвятой памяці інжынеру Рыдлеўскаму, які быў у 1946 годзе ў Рыме, дзе я быў прыдзелены пры польскім войску. Разгаварыліся, ён спытаўся, адкуль я, і кажа: а, зь Ільлі тут у нас у Парыжы ёсьць Філістовіч Янка. Пачалася перапіска, а асабіста я з ім спаткаўся ў 1948 годзе ў Парыжы, калі наша дэлегацыя беларусаў з Англіі прыехала на зьезд САБЭ — Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускай Эміграцыі. Я нейкі час яшчэ заставаўся ў Парыжы і начаваў там, дзе ён знаходзіўся з Наўмовічам.

По павароце ў Англію працягвалася перапіска. Калі мне стала вядома, што ён мае намер быць скінутым на Беларусь, я яму адраджваў, бо ніякіх вялікіх рэзультатаў гэта не дасьць, бо няма сілы з нашага боку. Але ён пісаў, што гэтай ідэі не закіне. У міжчасе я таксама кантактаваў з прэзідэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам, і ён таксама адмаўляў Янку, каб ён не рызыкаваў ехаць.

Пазьней ад яго сваякоў мне стала вядома, што ён казаў сваёй сястрэ Веры, калі зь ёй спатыкаўся: "Прэзідэнт Абрамчык меў рацыю, калі гаварыў, каб я не згаджаўся на скідку на Беларусь. Але гэта ўжо сталася, і я цяпер мушу гэту місію да канца выконваць".

Цяжка ацаніць усё гэта. Гераізм яго быў вялікі. Але тое, што ён планаваў зрабіць, зрабіць было немагчыма. Але ён быў упарты, і калі пастанаўляў нешта, дык імкнуўся выканаць. Шкада, але нічога не вернеш. Я ўважаю, што калі б ён заставаўся на Захадзе, мог прынесьці большую карысьць на эміграцыі для беларускай справы, чымся яго ўчынак там. Кожны з нас можа па-свойму ацэньваць гэтую справу. Хай яго на тым сьвеце судзяць. І кожны хай цэніць яго як патрыёта".

Найбліжэйшым сябрам называў Янка Філістовіч свайго равесьніка Міхася Наўмовіча, разам зь якім ён выдаваў часопіс "Моладзь" і закладаў Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі ў Францыі. Пасьля вяртаньня Янкі на Беларусь гэтую арганізацыю ўзначаліў яго сябра. Зараз мастак Міхась Наўмовіч жыве ў горадзе Вілепінт недалёка ад Парыжу. Вось урывак з яго ўспамінаў пра Янку:

"Я запазнаў Янку Філістовіча ў 1947 годзе ў беларускім памяшканьні на вуліцы Гравіер, калі я вярнуўся ў Францыю пасьля маёй дэмабілізацыі з саюзьніцкіх войскаў у Італіі. Калі Янка даведаўся, што я не меў дзе жыць, ён запрапанаваў, каб я часова спыніўся ў яго, у старэнькім гатэлі ў прадмесьці Парыжу. Пасьля я знайшоў асабістую кватэру і мы разышліся, але часта спатыкаліся або на зборах беларускіх, альбо ў касьцёле на службах, адпраўляных айцом Львом Гарошкам, а часамі і пры спорце.

Мы зноў зьядналіся ў адным студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Парк Шэвірон Сэвр, каля Версалю. Я жыў у адным пакоі зь Янкам, і тут ён закладаў БНАМ — Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі і часопіс "Моладзь". Супольна мы выдалі дзесятак нумароў перад ягоным выездам на студыі ў Бельгію, у Лювэн. Я працягваў выданьне "Моладзі" яшчэ некалькі гадоў.

Ад часу выезду Янкі ў Лювэн я страціў зь ім усе кантакты. Пра ягоны лёс я даведаўся толькі калі бальшавікі знайшлі мой адрас і прыслалі мне кніжку Пасьлядовіча "Па воўчых сьцежках". Пра сьмерць Янкі, яго расстрэл бандытамі НКВД я даведаўся толькі ў 1992 годзе, праз сорак гадоў...

За што памёр мой дарагі Янка? За тое толькі, што бязьмежна, усім сэрцам, усёй сваёй душою любіў сваю дарагую, незаменную Беларусь і беларускі народ. Ён таксама прычыніўся да таго, што Беларусь ёсьць незалежная. Калі я ў мінулым годзе меў радасьць, шчасьце вярнуцца на Беларусь пасля 49 гадоў разлукі і хадзіць зноў па сьцежках маёй маладосьці ў Наваградку, Менску, на Нарачы, дык якая б у мяне была радасьць, каб са мной быў мой сябра, прыяцель і супрацоўнік, мой дарагі Янка!

Яго няма, бо на 28 годзе жыцьця загінуў ад кулі, якую не заслугоўваў, бо нікому ніколі ў сваім жыцьці не зрабіў ніякае шкоды. Невядома нават, дзе ягоная магіла.

Дарагі Янка, калі твая душа там, далёка, з-пад зорак, бачыць тваю дарагую Беларусь, дык, можа, і цяпер будзеш ты ёй дапамагаць, каб яна вярнулася да сапраўднага шчасьлівага жыцьця, калі будзе кіраваная сваімі моцнымі адданымі беларускімі патрыётамі. Беларусь заслугоўвае на тое, каб была найпрыгажэйшай краінай Эўропы і сьвету, бо на ёй жыве такі прыгожы народ. Як ты, Янка, заўсёды пісаў у



сваіх лістах, — Жыве Беларусь!"

Пасьля вайны ў Бэльгіі, у каталіцкім універсітэце Лювэна, вучылася ладная беларуская грамада. Сёньня многія былыя лювэнцы памятаюць Янку Філістовіча, хоць яго побыт там быў нядоўгім. У іх ліку — доктар Янка Запруднік, былы шматгадовы супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода, цяпер — ад'юнкт-прафесар Калумбійскага універсітэту ў Нью-Ёрку.

"Мы ўдзевяцёх прыехалі з Ангельшчыны ў Лювэн увесну 1950 году, і неўзабаве прыехаў Янка Філістовіч з Парыжу. Агульнае ўражаньне ад яго засталося маладога, прыстойнага, засяроджанага чалавека, нешматслоўнага. У мяне пасьля яго застаўся сшытак, у якім ён запісваў курс гісторыі. Я быў на гістарычным факультэце, і ён гісторыяй цікавіўся. Пасьля кароткага знаёмства ён мне пакінуў гэты сшытак, датаваны 3 студзеня 1947 году.

Версія мінуўшчыны Беларусі, запісаная ім, — нацыянальна-дзяржаўная. У каго ён слухаў гэты курс — цяжка сказаць, верагодна ў Міколы Абрамчыка, старшыні Рады БНР, які сам моцна гісторыяй цікавіўся. Я таксама знаёмы з артыкуламі Янкі Філістовіча ў часопісе "Моладзь". У іх адлюстроўваецца ягоны патрыятызм, інтэнсіўнасьць характару і ідэалізм. Я думаю, гэта асноўны імпульс, які спрычыніўся да таго, што Янка апынуўся на Бацькаўшчыне.

Мы нічога не ведалі пра яго намеры, ён быў нешматслоўны. Рэтраспектыўна цяпер бачыцца постаць з моцным характарам і глыбокім пачуцьцём патрыятызму беларускага, ідэалізму і самаахвярнасьці. Шмат свайго пераканаьня палітычнага ён чэрпаў з мінуўшчыны, з беларускай гісторыі.

Яго ўчынак, бясспрэчна, геройскі. Думаю, ён мусіў ведаць, на што ідзе, тую небясьпеку, якая напаткае яго, і ўсё гэта перадумаць і быць гатовым. Гэта сьведчыць пра сілу характара. Гэта характар пакрою Кастуся Каліноўскага. Я думаю, што калі праўда пра Янку Філістовіча, уся драма, трагізм асабістай гісторыі будуць усьвядомлены, дык ён у вачох наступных пакаленьняў значна вырасьце і будзе прыкладам таго драматычнага і геройскага змаганьня, якое вялося..."

Адным з тых, хто непасрэдна вёў справы з Янкам Філістовічам перад яго перакідкай на Беларусь, быў старшыня Беларускага студэнцкага саюзу Барыс Рагуля. Зараз доктар Рагуля жыве і працуе ў Канадзе, у горадзе Лондан правінцыі Антарыо. Ён з'яўляецца заступнікам старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Успамінае Барыс Рагуля:

"Янку Філістовіча я першы раз спаткаў у 1949 — 1950 гадах у Парыжы. Ён працаваў разам са сьвятой памяці Міколам Абрамчыкам, былым прэзідэнтам Рады БНР. Уплыў гэтага чалавека ў патрыятычнай, нацыянальнай падрыхтоўцы пакінуў вялікі сьлед на Янку.

Я хацеў яго дастаць на вучобу ў Лювэн, у Бэльгіі, і ён некалькі раз прыязджаў, і тады я больш пазнаёміўся зь ім. Ён быў крыху іншы ад усіх студэнтаў. Яго думка адна канцэнтравалася выключна на службе беларускаму народу. Якую б гутарку ні пачыналі, лёгкія тэмы, ён вяртаўся да аднаго. Проста было цяжка паверыць, што можа быць у чалавека такая адданасьць, такая любоў да свайго народу, як у яго была.

Ён мне раз сказаў: "Ведаеце, я б ахвотна студыяваў, але мне тут душна. І ў Лювэне, і ў Парыжы, наагул на эміграцыі. Я лічу, што абавязак мой быць там, дзе мой народ церпіць". Тады не было яшчэ ніякіх магчымасьцяў выканаць гэтае пажаданьне. Але тады я пабачыў, што шчасьця на эміграцыі ён ня знойдзе. Ён шукае нейкага іншага выхаду, нейкага спаўненьня сваіх ідэалаў.

І вось калі ад спадара Абрамчыка ён даведаўся аб магчымасьцях, што можна падрыхтоўваць людзей, якія ў выпадку вайны маглі б апынуцца на Бацькаўшчыне, ён адразу заявіў спадару Абрамчыку: "Я чакаць не магу. Дапамажыце мне, каб я адразу пайшоў на бацькаўшчыну". Спадар Абрамчык, ведаючы яго патрыятызм, лічыў, што гэта вельмі небясьпечна, і прасіў мяне зь ім пагаварыць, каб ён зьмяніў сваю думку.

Я памятаю, яго спаткаў, доўга гаварылі. Я яму кажу: "Янка, гэта роўна самагубству". Тады ён мяне спытаў: "А Кастуся Каліноўскага чын быў роўны самагубству? Каб не было Каліноўскага, не было б 25 сакавіка. Без ахвяраў народ не можа здабыць свабоду і незалежнасьць".

Гэтыя словы так глыбока засталіся ў маёй памяці, што калі я пісаў аб ім, мне адразу прышла думка: гэта ёсьць малады Кастусь Каліноўскі, які верыць у тое, што зямля, прасочаная крывёй, дасьць плод свабоды і вольнасьці. Хто ведае, каб не Каліноўскі, каб не слуцкія паўстанцы, каб не Янка Філістовіч, нават гэтая тэарэтычная Рэспубліка Беларусь, якая сёньня лічыцца незалежнай, ці яна была бы...

Я не ведаю, ці была б Пагоня, ці быў бы бел-чырвона-белы сьцяг, каб не такія людзі, як Янка Філістовіч. Я ўжо ў паклонным веку мімаволі схіляю галаву перад гэтай велічай душы, перад гэтай велічай духа і хачу верыць, што ягоная ахвяра не была дарэмнай".

Гэтымі ўспамінамі 1994 году завяршаецца гісторыя пра Янку Філістовіча. У Парыжы сёлета айцец Аляксандр Надсан адслужыў жалобную імшу яго памяці. Сярод прысутных быў найбліжэйшы сябра Янкі Міхась Наўмовіч. Дзякуючы яго адданай памяці, дапамозе Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, сёньня Янка Філістовіч зь яго ахвярнай любоўю да Бацькаўшчыны вяртаецца да нас — і мы вяртаемся да яго.

*Красавік 1994 г.*

# БІТВА ПАД ВОРШАЙ — У ЭКСПАЗІЦЫІ МУЗЕЯ

***Гэтай вясной у Дзень Незалежнасці ў Палацы мастацтва адкрылася выстава творчай суполкі "Пагоня". Сярод шматлікіх твораў глядач мусіў заўважыць даволі вялікае палатно Генрыха Ціхановіча "Бітва пад Воршай". Зразумела, што яно магло з'явіцца толькі ў наш час. Аўтар скончыў мастацкі інстытут 31 год таму, напісаў шэраг пацыфісцкіх палотнаў у сюррэалістычным стылі, толькі некаторыя з іх, дзякуючы шчасліваму збегу акалічнасцяў, дайшлі да гледача. Аб тым жа, каб дзяржава набыла творы мастака, ён і марыць не мог.***

***Але час змяніўся. Няма болей савецкай імперыі, яе велізарная армія ўжо не***



***пагражае свету. Да пэўнай ступені страцілі злабадзённасць пацыфісцкія палотны Г.Ціхановіча. Іншы час патрабуе іншага мастацтва.***

***І ўспомнілі беларусы сваю гісторыю: вялікую дзяржаву ад Балтыйскага да Чорнага мора, вялікіх князёў, слаўныя бітвы. Тут мастак і адчуў патрэбу напісаць сапраўдную баталію, ухваляючы беларускую вайсковую славу. Нагадаем, што ў бітве пад Воршай наша войска на чале з гетманам Астрожскім ушчэнт разбіла ледзь не ўтрая большую армію маскоўскіх агрэсараў.***

***Зараз карціна знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры.***

**Наш кар.**

*На рэпрадукцыях:* карціны "Бітва пад Воршай"(1994г.) і "Пагоня"(1974г.).

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ЗА ПОСПЕХІ Ў ГАЛІНЕ МАНКУРТЫЗАЦЫІ...

**Валянцін Жыдц — былы настаўнік, які шмат гадоў аддаў школе. Зараз — на заслужаным адпачынку, жыве ў Бабруйску. Як кожны свядомы беларус вельмі балюча ўспрымае ўсе напады на нашую мову, культуру, гісторыю. Гэта і прымусіла ўжо пажылага чалавека ўзяцца за асадку і асабіста прынесці свой ліст у рэдакцыю штотыднёвіка. Да прапановы, за якую выступае сп.Валянцін, зразумела, можна паставіцца з гумарам. Але нам, шаноўныя чытачы, падалося, што тут ёсць над чым прызадумацца.**

"Жыхары рэспублікі дасягнулі вялікіх поспехаў у справе манкуртызацыі. Па гэтым пакзачыку мы, мабыць, ці не на першым месцы ў свеце. Але ж людзі, якія шмат зрабілі ў гэтай галіне, ніяк не адзначаны. Пераканаць — краіна павінна ведаць сваіх герояў. А таму прапаную ўсталяваць ганаровыя званні: манкурт; заслужаны манкурт; народны манкурт; ганаровы манкурт.

Скласці і зацвердзіць палажэнне, якое сёння асмелюся прапанаваць чытацкай аўдыторыі.

Палажэнне (праект):

Званне "Манкурт" можа быць нададзена асобам:

беларусам, якія запамятавалі сваю мову і гавораць на іншай або стала авалодалі трасянкай;

калі яны выхваляюцца, што з'яўляюцца беларусамі, але не могуць трываць беларускае мовы і культуры, не ўспрымаюць нацыянальны герб і сцяг, актыўна выступаюць за аншлюс ("воссоединение");

прынцыпова выпісваюць толькі часопісы і газеты на расійскай мове.



Фэлікс ЯНУШКЕВІЧ "Пахаванне апошняга камуніста". (Палатно, алей)

Званне "Заслужаны манкурт" надаецца:

асобам, якія ўжо маюць званне "Манкурт";

грамадзянам, якія, займаючы важкія пасады, шмат зрабілі для выкаранення нялюбай ім мовы (выступленні ў друку, па радыё і тэлебачанні, на сходах, паседжаннях, у сваіх творах і г.д.);

дэпутатам розных узроўняў, якія ўсё жыццё хадзілі па беларускай зямлі, елі беларускі хлеб і грэбавалі беларускай мовай.

Званне "Народны манкурт" надаецца асобам, якія ў справе манкуртызацыі дасягнулі найвялікшых поспехаў:

зрабілі тое, за што надаецца званне "Манкурт" і "Заслужаны манкурт", але ў большых маштабах;

карыстаючыся высокім службовым становішчам, зрабілі вялікі ўнёсак у тое, каб беларуская мова была не адзінай дзяржаўнай мовай, усяляк бэсцілі яе;

таварышам, якія актыўна садзейнічалі і садзейнічаюць, каб закон аб мове не выконваўся;

дэпутатам ВС РБ, якія ніколі не выступалі на роднай мове.

Званне "Ганаровы манкурт" надаецца асобам выключна сталага ўзросту:

якія раней актыўна садзейнічалі справе знішчэння беларускай мовы і беларускасці ўвогуле;

працягваюць весці актыўную агітацыю за перамогу "общепринятого языка".

І, нарэшце, пра льготы.

Прапаную звярнуцца з хадайніцтвам ва Урад РБ, каб узнагароджаныя мелі тыя ж прывілеі, якімі карыстаюцца ўсе носьбіты ганаровых званняў.

Думаю, супярэчанняў па гэтым пытанні ні ў кога не будзе.

А каб пошукі вышэй згаданых асобаў былі больш плённымі, трэба засяродзіць пільную ўвагу на кіроўцах і шарагоўцах такіх арганізацыяў і суполак, як ПКБ (Чыкінская), Славянскі сабор (СС), ліберальна-дэмакратычная партыя, Саюз афіцэраў і да т.п. Там шмат прэтэндэнтаў, вартых новых ганаровых званняў.

Заўвага: іншым асобам, якім не могуць прысвойвацца ганаровыя званні Манкуртаў розных рангаў і якія актыўна шчыравалі на ніве руйнавання мовы тубыльцаў, можна ўсталяваць новыя ганаровыя званні.

**Валянцін ЖЫДЦ"**

# Я ВАМ СПЯЮ...

## Я ЗМАГЛА Б ПАБЕГЧЫ ЗА... ПАВАРОЦІ

Лучана і Адуа Паварoці ў шлюбе ўжо 33 гады. Яны пазнаёміліся сорак гадоў таму, калі вучыліся ў школе. Гэта якраз тое самае "каханне на ўсё жыццё". Браць урокі вакалу Паварoці пачаў з падачы сваёй каханай жонкі. У 1963 годзе, атрымаўшы першы ганарар, ён абклеіў купюрамі сцены ве спачывальні. Зараз Лучана Паварoці 58 гадоў, яго жонцы — 57, у іх тры дарослыя дачкі.

З ганарараў мужа (да 1 мільёна даляраў за канцэрт) Адуа можа траціць столькі, колькі захоча. Ёй падабаецца антыкварыят і срэбра, якімі забіта іх віла ў Мадэне. Пыл з антыкварыяту выціраюць дзве служкі (заробак кожнай 2000 марак у месяц). Свае вечаровыя шаўковыя строі ў чорна-белай гаме Адуа выбірае ў "буцікy" іх дачкі Ларэнцы. Асаблівы гонар сям'і Паварoці —16 верхавых коней, выездкай якіх займаецца трэнер-інструктар. Ён спецыяльна прылятае дзеля гэтага з Германіі (500 марак у гадзіну).

Лучана Паварoці прывык, каб яго абслугоўвалі як пана. Таму абавязкова павінен быць хто-небудзь "пад рукой", каб падаць яму то акуляры, то алоўак, то яшчэ што-небудзь — толькі Бог ведае, што яму можа спатрэбіцца ў наступную хвіліну. Лучана — іпахондрык, і, як усе спевакі, асабліва тэнары, палохаецца хвароб і інфекцыі. Ён таксама не трывае тытунёвага дыму, відаць, таму ягонай жонцы дазволена паліць выключна на балконе. А калі "Вялікі П", як яго называюць сябры і родныя, садзіцца на дыету, "посціцца", дык падлічваць калорыі davodzіцца ўсім членам сям'і.

Адуа бачыць свайго мужа самае большае 5 дзён на месяц. "За ўвесь час нашага сумесна жыцця я болей размаўляла з ім па тэлефоне, — гаворыць яна, — чым бачыла яго. Таксама па тэлефоне я паведаміла яму аб нараджэнні нашых дачок".

## "БАЦЬКА" СЦЮАРДЭСЫ ЖАННЫ — ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Уладзімір Праснякоў-малодшы:

— Ад сёлетняга Вялікадня мяне не цягне есці мяса. Гэта ж нейчы дух! Істоту, якой Бог даравау жыццё, нельга есці. Для мяне гэта ўсё роўна, што пабываць у моргу. Як доўга працягнецца ў мяне гэты перыяд, я не ведаю.

Аднак сапраўдным вегетарыянцам я сябе не лічу. У іх іншы лад жыцця: не ядуць мяса, грыбоў, не злоўжываюць алкаголем. А я раз на месяц магу і птушынае мяса з'есці, а піва ўвогуле вельмі паважаю.

Вышэйшым мой голас не стане. Ды й я ўжо забыў, калі спяваў фальцэтам. Маё "вегетарыянства" на голас не паўплывае, хіба толькі на душу.

## ЧЫЕ ВЫ, ХЛОПЦЫ, БУДЗЕЦЕ?

У кастрычніку і толькі ў Маскве (на жаль) прайшлі канцэрты вядомых папулярных спевакоў Дэміса Русаса і Крыса дэ Бурга.

Зразумела, што кошт білетаў у гандляроў ля канцэртнай залы (50 — 80 даляраў) моцна адрозніваўся ад сапраўднага кошту. Але для тых, хто не змог трапіць на канцэрт, спецыяльна на Галоўным паштамце г.Масквы арганізавалі продаж кнігі Дэміса Русаса "Як я схуднеў". З той пары, калі Дэміс Русас упершыню, у 1986 годзе, прыязджаў у былы СССР, спявак пахудзеў на 50 кілаграмаў. Карыстаўся ён сваёй методыкай. Да вялікай радасці паклоннікаў і яго жонкі гэтая метамарфоза аніяк не адбілася на унікальным голасе спевака.

Для даведкі аматарам творчасці Дэміса Русаса: ён нарадзіўся ў 1947 годзе ў Александрыі ў сям'і музыкантаў. З 1968 года пачаў сваю сольную кар'еру. Да канца 70-х гадоў ягоныя песні нязменна займаюць верхнія радкі ў хіт-парадах краін Еўропы. Апошнім часам жыве ў Парыжы.

Што тычыцца містэра Крыса дэ Бурга, можна адно толькі параіць — сачыць за рэкламай канцэрна "Рускае відэа", які падрыхтаваў і растыражыраваў канцэрт ірландскага спевака.

## "КОНФУЗ, МАТУШКА-С..."

Уся замежная прэса чамусьці, перш чым пісаць пра спявачку з Францыі Патрысію Каас, прыгадвае казку Андэрсена "Брыдкае качаня", а між тым усё-такі адзначае: "яна не прыгожая, але ж страшэнна мілая". Акрамя неардынарнага фуршэта, які меўся адбыцца ў маскоўскім гатэлі пад ардынарнай назвай "Палас", Патрысія прыемна здзівіла журналістаў сваімі адказамі. Яе талісман — плюшавае мядзведзяня — па-ранейшаму разам з ёй, а дома чакаюць яшчэ 39. А яшчэ ёй дзіўна чуць да сябе зварот журналістаў "мадмуазэль", бо, як заявіла Патрысія Каас: "У Францыі мадмуазэлей ужо няма".

Сэ ля ві!

## СЦЕРАЖОНАГА БОГ БЕРАЖЭ

Уітні Х'юстан, вядомая спявачка, па ўсім відаць, збіраецца ўзмацніць сваю кар'еру і папулярнасць у якасці кінаактрысы. Магчыма, ёй не даюць спакою лаўры Барбары Стрэйзанд і Лайзы Мінэлі. Але ў зоркі ёсць некаторыя праблемы. Паўгода таму было вырашана, што У.Х'юстан здымецца ў чацвёртай па ліку кінаверсіі мюзікла "Зорка нарадзілася" (перад гэтым здымалася Барбара Стрэйзанд і Крыс Кристоферсан у 1976 годзе). Але ў апошні момант Уітні адмовілася ад здымак. Шмат хто вырашыў, што яна проста баіцца: фільм аб спявачцы, якая робіць выдатную кар'еру, але нешчаслівая ў асабістым жыцці, можа стаць для яе аўтабіяграфічным.

Зараз рыхтуецца новы праект для Уітні — рэмейк класічнай камедыі 1947 года "Жонка епіскапа".

**Па матэрыялах замежнага друку**

# ... ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАХАННЕ...

* * *

Сусветны банк апублікаваў даклад, згодна з якім да 2030 года насельніцтва Зямлі павялічыцца ўдвая, да таго ж найбольш інтэнсіўны рост будзе адзначаны ў Афрыцы. "Пальму першынства" трымаюць Аман, Нігерыя, Йемен, Эфіопія і Ангола. Колькасць насельніцтва зменшыцца ў Нямеччыне, Італіі, Венгрыі, Гішпаніі і Японіі. Сярод прычын, што ўплываюць на рост насельніцтва, называюць больш высокі ўзровень нараджальнасці і больш высокая якасць медыцынскага абслугоўвання.

* * *

Па звестках Міністэрства аховы здароўя Беларусі, колькасць венерычных захворванняў за апошнія сем месяцаў павялічылася ў 2,4 раза. На жаль, адначасова расце і колькасць непаўналетніх дзяцей, што трапляюць у дыспансеры. З амаль што 12 тысяч носьбітаў прыпанцаў і ганарэі — каля ста чалавек — малалеткі.

* * *

Аналіз крыві больш чым у 130 манахаў-будыстаў паказаў, што яны заражаны вірусам імунадэфіцыту, паведамляюць тайваньскія газеты. Адна з газет са спасылкай на крыніцы ў дзяржаўным дэпартаменце па справах рэлігіі сцвярджае, што слугі богаў "атрымалі" сваю хваробу, калі наведвалі прастытутак. Манахі хадзілі ў публічныя дамы ў парушэнне дадзенай клятвы прытрымлівацца цэлібату і... панеслі пакаранне.

* * *

Паўсюль у свеце камплімент жанчыне лічыцца праявай выхаванасці. Тое самае можна назіраць і ў афрыканскай краіне Тога. Але менавіта там з кампліментамі трэба быць вельмі асцярожным. Рэч у тым, што, паводле мясцовых звычаяў, мужчына, які пахваліў прыгажосць ці іншыя якасці жанчыны, павінен ажаніцца з ёю. Адзінае суцяшэнне можа быць у тым, што ісламскія законы Тога дазваляюць мець чатырох жонак.

**Па матэрыялах замежнага друку**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія: А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1. Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адлюстроўваць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.